# Наша Свабода

№40(127) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

13 КРАСАВІКА 2001 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




## Юбілей Івонкі Сурвіллы

11 красавіка старшыні Рады беларускай Народнай Рэспублікі Івонцы Сурвілле споўнілася 65 гадоў. Яшчэ два тыдні таму яна віншавала ўсіх беларусаў з Днём Волі 25 сакавіка, гэтымі днямі Івонка Сурвілла сама прымае віншаванні і зычанні ад сваякоў, а таксама ад прадстаўнікоў беларускай дыяспары і палітычных дзеячаў. Рэдакцыя НАШАЙ СВАБОДЫ далучаецца да віншаванняў і зычыць спадарыні Сурвілле ў ейны юбілей доўгіх гадоў жыцця ў здароўі, дабрабыце, шляхотнасці і ў беларускасці, а таксама разам дажыць да часоў, калі ў цяперашняй Беларусі праважаць ідэі БНР.

## Велікодных яек хопіць усім

У міністэрстве гандлю запэўніваюць, што дэфіцыту яек на сёлетнія велікодныя святы не будзе, бо птушкафабрыкі спраўна выконваюць усе заказы. Дарэчы, у сталіцы штодня спажываецца каля 800 тысячаў яек. Велікоднымі днямі гэтая лічба павялічыцца да 1,3 мільёна штук.

# Са святам Вялікадня



Фота Ул. ШЛАПАКА

Першы Вялікдзень трэцяга тысячагоддзя праваслаўныя і каталікі святкуюць адначасна. Можа, гэта знак зверху для паразумення царкоўных ачольнікаў

# Беларусь заплаціць мільён долараў за Барадзіна

*Дзяржаўны сакратар Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі Павел Барадзін зможа выйсці на волю, калі за яго будзе ўнесены заклад у памеры 5 мільёнаў швейцарскіх франкаў (2,92 мільёна долараў). Такое рашэнне прыняла ўчора абвінавачвальная палата Швейцарскай Канфедэрацыі.*

Інфармацыйныя крыніцы паведамляюць, што, нягледзячы на сваю сардэчную хваробу, Павел Барадзін асабіста наведаў паседжанне абвінавачвальнай палаты. Ён быў дастаўлены ў будынак Палаца правасуддзя ў адмысловым фургоне пад аховай за 20 хвілінаў да пачатку – рама з турэмнага аддзялення кантанальнага шпіталя Жэневы. Журналісты падлічылі, што паседжанне доўжылася ўсяго 7 хвілінаў. Суддзя Марціна Хаер патлумачыла, што з-за недахопу ўлікаў з П.Барадзіна знятая частка абвінавачванняў, у прывватнасці ў тым, што ён адмываў грошы ў швейцарскіх банках у складзе злачыннай групоўкі. Так што цяпер ён разглядаецца як крымінальнік-адзіночка.



Фота IREX/ProMedia

Першапачаткова планавалася, што грошы за П.Барадзіна ўнясе міністэрства замежных справаў Расіі. Дзяржаўны сакратар – грамадзянін менавіта гэтай краіны, і судзіць яго хочуць за факты карупцыі, якія мелі месца ў Расіі. Аднак потым рашэнне было зменена. РИА «Новости» перадало са спасылкай на інфармаваныя крыніцы ў расійскім урадзе, што гарантам законапаслухмянасці Паўла Барадзіна будзе выканаўчы камітэт Саюза Беларусі і Расіі.

Што ад гэтага змяняецца? Перш за ўсё, крыніца фінансавання. Як вядома, бюджэт Саюзнай дзяржавы фармуецца з двух няроўных частак, што паступаюць ад Беларусі і Расіі. Дзве трэціны сумаў уносіць Расія, яшчэ трэціну – Беларусь. Няцяжка падлічыць, што выдаткі Беларусі на вызваленне расійскага «карупцыянера пад пытаннем» складаюць амаль мільён долараў. Не вельмі шмат, канешне, – многія пражэкты Аляксандра Лукашэнкі каштавалі беларускаму народу куды болей. Але можна быць упэўненым, што можна было знайсці гэтым грошам і лепшае прымяненне. Напрыклад, патраціць іх на тыя ж дзіцячыя дамы, пра якія заўсёды так клапаціўся ў прысутнасці журналістаў сам дзяржсек. Затое цяпер, калі ён сам будзе прыязджаць у Беларусь, мы з поўным правам зможам называць яго: «Дарагі Пал Палыч!»

Аднак пакуль што Паўлу Барадзіну давядзецца яшчэ правесці пэўны час на ложку турэмнага шпіталя, куды ён трапіў днямі са скаргамі на болі ў сэрцы. Спачатку швейцарскім уладам неабходна будзе вызначыць тэрміны ўнясення закладу. У адпаведнасці з працэдурай, спачатку швейцарскі бок мусіць атрымаць гарантыі пералічэння грошай ад афіцыйных асобаў у Выканаўчым камітэце Саюзнай дзяржавы, а потым будзе агавораная і сама працэдура пералічэння грошай. У любым выпадку, пытанне пра ўнясенне закладу мусіла быць вырашанае да ўчарашняга дня, бо з пятніцы па панядзелак швейцарскія ўстановы (у тым ліку і банкі) зачыненыя ў сувязі з велікоднымі вакацыямі.

Пры гэтым, заклад мусіць быць унесены толькі наяўнымі грашыма ў касу жэнеўскага Палаца правасуддзя. Толькі пасля гэтага Павел Барадзін з'явіцца на волі і нават зможа вылецець у Маскву – але з абавязковай умовай з'яўляцца па першым патрабаванні на допыты да следчага. Прэс-сакратар П.Барадзіна Іван Макушок мяркуе, што ў Маскву ягоны шэф зможа прыляцець нават сёння.

Што ж датычыць закладу, то можна лічыць яго страчаным назаўсёды. Наўрад ці Павел Барадзін у бліжэйшы час пажадае зноў выправіцца за мяжу. У выпадку, калі следчы Даньель Дэво паспяхова завяршыць расследаванне справы, Паўлу Барадзіну будзе пагражаць да 5 гадоў пазбаўлення волі. А гэта куды больш сур'ёзна, чым тыя чатыры месяцы, што ён ужо адседзеў.

Дарэчы, пракурор кантона Жэнева Бернар Бертаса па-ранейшаму перакананы, што існуе дастаткова доказаў злачыннай дзейнасці П.Барадзіна. І давесці дзяржаўнага сакратара да суда – справа ягонага гонару.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

## Ахвяры сталічных пажараў

За тры месяцы гэтага года ў выніку пажараў загінулі 27 жыхароў Мінска, і гэта на 12 чалавек больш, чым за аналагічны тэрмін летась. Загінула 20 мужчын і 7 жанчын. Прычым усе абсалютна мужчыны і 5 з 7 жанчын знаходзіліся ў той момант у нецвярозым стане. 13 чалавек згарэлі ва ўласных кватэрах, 8 — у прыватных дамах, 4 — на працоўных месцах. Усяго ў першым квартале пажарныя часці сталіцы ажыццявілі 1.827 выездаў, з іх 356 — па няспраўджаных выкліках.

## Пляжы Турцыі патаннелі

Амбасадарка Турцыі ў Беларусі Фатма Сайсал заявіла журналістам, што ейная краіна значна папрыбавнела сёлета для турыстаў. Гэта стала мажлівым праз патаненне турыстычных паслугаў на 30-40% з-за дзвальвацыі турэцкай ліры. Цяпер Турцыя намагаецца ўкладаць грошы ў экспарт і турызм, каб дасягнуць эканамічнага дабрабыту. Са словаў Фатмы Сайсал, у гэтым сезоне візы ў Турцыю беларускія турысты будуць купляць па ранейшым кошце $10.

## Грошы на паводку

Савет міністраў пастанавіў выдзеліць з фонду фінансавання выдаткаў, звязаных са стыхійнымі бедствамі, аварыямі і катастрофамі, 210 мільёнаў рублёў на антыпаводкавыя захады. З іх 120 мільёнаў пойдзе Дзяржканцэрну па будаўніцтве і эксплуатацыі меліярацыйных і водагаспадарчых сістэмаў для стварэння рэзерву пампава-сілавога абсталявання. Па 5 мільёнаў на ўзвядзенне супрацьпаводкавых збудаванняў атрымаюць Жыткавіцкі, Пінскі і Столінскі райвыканкамы.

## Суд разгледзеў жальбы таксапаркаў

Канстытуцыйны суд краіны абнародаваў рашэнне па звароце кіраўнікоў таксаматорных паркаў. Савету міністраў прапанавана прааналізаваць фіксаваныя стаўкі прыбытковага падатку на прыватных таксоўцаў і ўзмацніць кантроль за дзейнасцю па ажыццяўленні транспартных паслугаў. Кіраўнікі таксаматорных паркаў патрабавалі павялічыць падаткі на прыватных таксоўцаў, таму што, маўляў, тыя плацяць падаткаў у 5-10 разоў менш за юрыдычных асобаў.

## Дзве выставы аб адным

З 27 красавіка па 1 траўня ў выставачных павільёнах Нацыянальнага выставачнага цэнтра «БелЭкспа» пройдзе выстава «Аўташоу», а паралельна ў спартовым комплексе «Уруччa» – «Маторшоу».

Выставы, на якіх ёсць магчымасць азнаёміцца з прадукцыяй вядучых аўтамабільных кампаніяў і прадпрыемстваў сэрвіснага абслугоўвання, адбываюцца ў нас штогод, а ў гэтым годзе нават двойчы і ў адзін час.

Справа ў тым, што сёлета ў канкурэнтнай барацьбе сутыкнуліся два былыя партнёры – НВЦ «БелЭкспа» і Аўтамабільная асацыяцыя. Генеральны дырэктар НВЦ «БелЭкспа» Аляксей Лазука нават склікаў адмысловую прэс-канферэнцыю, дзе ацаніў правядзенне Аўтамабільнай асацыяцыяй свайго «Маторшоу» ў адзін тэрмін з «Аўташоу» як «некарэктныя паводзіны» і выказаў заклапочанасць тым, што арэндаваныя канкурэнтамі плошчы ў спартовым комплексе «Уручча» не прыстасаваныя да правядзення выставаў, асабліва з вялікай колькасцю экспанатаў павышанай небяспекі. Але пры гэтым прызнаў, што экспанентам выгадней выстаўляцца на «Маторшоу», бо кошты там ніжэйшыя, паколькі і самі арганізатары выставачныя плошчы ўзялі ў арэнду па цэнах, ніжэйшых за ўсталяваныя сярэднія ў 8-10 разоў – не па 1,5-1,8 долара за квадратны метр, а па 0,2 долара.

На «Аўташоу» возьмуць удзел дылеры асноўных вядучых замежных аўтакампаніяў, а таксама расійскай кампаніі «ГАЗ» і «Масквіч» і каля 15 беларускіх аўтамабільных прадпрыемстваў. Кошты на квіткі пакуль плануюцца на ўзроўні 1 тысячы рублёў (на «Маторшоу» – 5 тысячаў).

**Алена ЛАБАНАВА**

# Рашэнне суда перадвызначана

У Мінскім гарадскім судзе завяршылася судовае паседжанне па справе лідэра Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) Міколы Статкевіча і праваабаронцы Валерыя Шчукіна, дзе абодвум было прадастаўленае апошняе слова.

Нагадаем, што інкрымінуецца арганізацыя і актыўны ўдзел у несанкцыянаванай апазіцыйнай акцыі «Марш Свабоды», якая адбылася 17 кастрычніка 1999 года. Супраць М.Статкевіча высунутыя такія ж абвінавачванні і наконт дэманстрацыі на Дзень Незалежнасці 27 ліпеня таго ж года.



Фота Ул. ШЛАПАКА

Правам апошняга слова скарыстаўся толькі В.Шчукін. Ён не прызнаў сябе вінаватым, бо «дзеянні ўладаў 17 кастрычніка былі абсалютна антыканстытуцыйнымі». М.Статкевіч адмовіўся прамаўляць, бо, на ягоную думку, рашэнне суда перадвызначанае загадзя, і любыя словы ў абарону не маюць сэнсу.

Канчатковы вырак будзе абнародаваны 17 красавіка.

**Любоў ТАРЛЕЦКАЯ**

## НАДВОР'Е




Крыніца: www.gismeteo.ru

## Курс наяўнага долара на «чорным рынку»

1340



# Страціў 40 літраў самагону

Надзвычайным здарэннем у Баранавічах абярнулася жаданне 31-гадовага грамадзяніна займець на Вялікдзень вядро моцнай гарэлкі. Ён прыладаваў 40-літровую металічную бочку на газавую пліту, злучыў бак з водаправодам і халадзільнікам гумавымі шлангамі і пайшоў на вуліцу адпачыць. У гэты момант саматужна зроблены апарат узарваўся. Шыбы «самагоннай» кватэры на першым паверсе пяціпавярховага дома разляцеліся на 10 метраў. Гаспадару і суседзям пашанцавала – ніхто не пацярпеў. Няўдалы самагоншчык, які працаваў экспедытарам у прыватнай фірме, быў затрыманы міліцыяй, і яму прыйдзецца сплачваць вялізны штраф.

**Алесь КАЗЛЮКЕВІЧ**

## Жыццё вымагае паболей псіхолагаў

На пачатак 2001 года ў Беларусі налічвалася 2.600 сацыяльных работнікаў і каля 2.000 псіхолагаў. Пры патрэбе ў іх для нашай краіны ўтрая большай. Гэта толькі тая колькасць, што мусіць быць у навучальных установах, бо, паводле плана рэформы сярэдняй адукацыі, кожная агульнаадукацыйная школа павінна мець такога спецыяліста (упершыню сацыяльныя работнікі і псіхолагі з'явіліся ў школах у 1997 годзе). Разам з тым расце попыт на псіхолагаў у самых розных арганізацыях і фірмах.

За апошнія 1,5 года створана каля 60 сацыяльна-педагагічных прытулкаў для дзяцей, дзе ім аказваецца псіхалагічная дапамога. Надалей сацыяльна-педагагічныя цэнтры плануецца размясціць у кожным раёне Беларусі.

Галоўная неабходнасць – падрыхтоўка спецыялістаў. Вучыць на сацыяльнага работніка і псіхолага пачалі ў педуніверсітэце 10 гадоў таму. Не ставала спецыялістаў па сацыяльнай рэабілітацыі пацярпелых ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС, і на адмысловы факультэт тады набралі першых 50 чалавек. Зараз навучаюцца 1.200.

**Алена ЛАБАНАВА**

## «Справа Бандажэўскага» развальваецца

10 красавіка гамяльчанін Андрэй Патапаў, які выступае сведкам па крымінальнай справе ў дачыненні да прафесара Бандажэўскага, іншых супрацоўнікаў Гомельскага медінстытута і членаў прыёмных камісіяў, заявіў, што пісаў заяву аб дачы ім хабару за паступленне ў ВНУ пляменніцы пад дыктоўку супрацоўнікаў абласнога ўпраўлення Камітэта па арганізаванай злачыннасці і карупцыі пры МУС Беларусі.

Сведка патлумачыў ваеннай калегіі Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь, якая разглядае справу, што ў кабінеце, дзе ён пісаў заяву, таксама ляжалі і ўзоры іх правільнага напісання. Другая сведка Антаніна Дашкевіч, дапытаная 10 красавіка, паказала, што за паступленне дачкі ў медінстытут яна перадала адной з падсудных 2 тысячы долараў. Аднак яе дачка ў ВНУ не паступіла, і грошы цалкам вярнулі.

**Ірына ШАНЦАВА, БелаПАН**

# За 7 гадоў Лукашэнка прадаў зброі на 1 мільярд долараў. Дзе грошы?

**Агенцтва «Ю.С.Ньюс» (www.yusnews.com)**

Прадстаўнік беларускага міністэрства абароны ў сераду заявіў расійскаму Агенцтву вайсковых навінаў (АВН), што «Беларусь зарабіла каля 1 мільярда долараў, прадаючы зброю ды вайсковае абсталяванне з 1994 па 2000 год».

Неназваны чыноўнік таксама дадаў, што Беларусь уваходзіць у дзесятку найбуйнейшых экспарцёраў зброі ў свеце. Яе галоўны прадавец – дзяржаўнае прадпрыемства «Белзнешпрамсэрвіс», якое таксама займаецца мадэрнізацыяй узбраенняў адпаведна замовам замежных кліентаў.

У прыватнасці, паведамляе АВН, прадпрыемства ажыццяўляе сур'ёзную мадэрнізацыю танкаў Т-72, якія абсталёўваюцца дадатковай бранёю, беларускімі лазерна-аптычнымі прыладамі ды іншым дапаможным абсталяваннем. Паводле дырэктара «Белзнешпрамсэрвіса» Аляксандра Андрона, гэта спрыяла значнаму павелічэнню продажу танкаў.



Фота IREX/ProMedia

Нядаўна ўлады перадалі ягонаму прадпрыемству вайсковы гарадок Сцяпянка на ўскрайку Мінска, сказаў А.Андрон. Некалькі пабудоваў гарадка цяпер пераўтвараюцца ў цэхі для рамонту артылерыі ды іншага абсталявання. «Белзнешпрамсэрвіс» пабудуе ў Сцяпянцы цэнтр выставаў ды гатэль. Як сказаў А.Андрон, гэтыя планы падтрымаў сам Аляксандр Лукашэнка.

# Дзе Віктар Ганчар і Анатоль Красоўскі?

Учора ў Мінску адбылася прэзентацыя выпуска «Дзе Віктар Ганчар і Анатоль Красоўскі?» бюлетэня «Незалежнае расследаванне», падрыхтаванага грамадскім аб'яднаннем «Прававая дапамога насельніцтву».



Фота Ул.ШЛАПАКА/архіў

Як вядома, 16 верасня 1999 года былі выкрадзеныя выконваючы абавязкі старшыні Вярхоўнага савета 13-га склікання В.Ганчар і ягоны сябра, бізнесовец А.Красоўскі. З таго часу пра іхні лёс нічога не вядома.

ГА «Прававая дапамога насельніцтву» сабрала разам усе публікацыі незалежнай прэсы, адказы афіцыйных асобаў, рэакцыю міжнароднай грамадскасці наконт знікнення. Аўтар-складальнік бюлетэня Алег Волчак, былы следчы пракуратуры, выкарыстоўваючы ўсе гэтыя матэрыялы, даказвае, што знікненне В.Ганчара і А.Красоўскага было палітычна матываваным.

«Мы наўмысна не робім высноваў, але прапануем чытачам задумацца пра сітуацыю, якая склалася ў Беларусі. Мы не хочам, каб у нашай краіне існаваў бандыцкі прынцып «Няма чалавека – няма праблемы», – пішуць аўтары бюлетэня. – Сёння ў Беларусі ёсць адна вельмі вялікая праблема. ЗНІКАЮЦЬ ЛЮДЗІ. Казаць пра выпадковасць знікнення гэтых людзей неразумна. У краіне дзейнічае **СІСТЭМА ПА ЎСТРАНЕННІ АПАНЕНТАЎ ДЗЕЮЧАГА РЭЖЫМУ**. Прэс гэтай сістэмы абрушваецца штогадзінна на беларускі народ».

На прэзентацыі прысутнічалі прадстаўнікі дыпламатычных місіяў, акрэдытаваных у Беларусі, сваякі зніклых асобаў, а таксама ўдава былога віцэ-спікера ВС-13 Генадзя Карпенкі Людміла.

**Міхась КАРПОВІЧ**

## Касманаўт не ведае пра крадзеж

Ад першага беларускага касманаўта Пятра Клімука землякі-берасцейцы ўтойваюць факт крадзяжу ягонага скафандра з мемарыяльнага музея ў сярэдняй школе вёскі Тамашоўка Брэсцкага раёна.

Відавочна, што напачатку спадзяваліся на выніковы міліцэйскі вышук, а пазней ужо не хацелі крыўдзіць генерал-палкоўніка, бо ў нават у закрытым Зорным гарадку ў яго скралі новы джып. Дрэнна таксама, што да 12 красавіка на вуліцы Касманаўтаў у Брэсце не былі памыты ад пылу бронзавы бюст двойчы героя і гранітны пастамент. Тым не менш, 60-гадовага сябра Ю.Гагарына павіншавалі тэлеграмамі і пажадалі поспехаў на пасадзе кіраўніка Расійскага дзяржаўнага навукова-даследчага выпрабавальнага цэнтра падрыхтоўкі касманаўтаў.

**Галіна БАРАВАЯ**

## Страйк на брэсцкай «камароўцы»

З 11 красавіка пачаліся «чорныя» дні вырашэння прыватных прадпрымальнікаў, якія гандлююць нехарчовымі таварамі, з цэнтральнага рынку ў Брэсце.

Больш як 95 чалавек, згодна з адмысловым распараджэннем Брэсцкага гарвыканкама, вымушаныя шукаць для сябе іншыя месцы. Аднак выпіхванне арандатараў паліцаў пад навесамі без папярэджання абярнулася іх актыўным супрацівам. Ініцыятыўная група заклікала да арганізаванага страйку і задавальнення сустрэчных патрабаванняў гарадской уладай. Гвалтоўнае высяленне напрост пагражае стратамі, бо фіксаваная стаўка падатку за красавік выплачаная загадзя, а «нагнаць» выручку будзе немагчыма, тым больш што мінаюць дні павышанага перадвелікоднага попыту.

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

## Помнік Янку Купалу – у Маскву

Камісія па манументальным мастацтве Маскоўскай гарадской думы падтрымала ідэю ўстаноўкі ў расійскай сталіцы помніка народнаму паэту Беларусі Янку Купалу.

У паведамленні прэс-цэнтра Масгардумы адзначаецца, што частка жыцця славутага беларускага паэта была звязаная з Масквой: тут ён вучыўся, тут трагічна загінуў. Пазней парэшткі паэта былі перавезеныя ў Мінск. У свой час Масква падарыла Мінску помнік А.С.Пушкіну, цяпер жа беларусы хочуць падарыць сталіцы помнік свайго народнага паэта.

Як мяркуецца, месца ўстаноўкі помніка — Міўская плошча, насупраць былога Народнага ўніверсітэта імя А.Л.Шаняўскага (цяпер Расійскі дзяржаўны гуманітарны ўніверсітэт), дзе паэт вучыўся. Фінансаванне работ гатовы ўзяць на сябе грамадскія арганізацыі беларускай дыяспары ў Маскве, а таксама шэраг арганізацыяў у Беларусі.

**Алег САКАЛОЎ, БелаПАН**

## Юбілейныя святкаванні ў касцёлах Беларусі

10 красавіка святочным набажэнствам у віцебскім Кафедральным касцёле Св. Барбары пачалося святкаванне дзесяцігадовага юбілею аднаўлення арганізацыйнай структуры Рыма-каталіцкага касцёла ў Беларусі.

Да 1991 года ўсе беларускія рыма-каталіцкія парафіі існавалі асобна. З 13 красавіка 1991 года па загадзе папы рымскага былі створаныя Гродзенская, Пінская і Мінска-Магілёўская дыяцэзіі, а ў 1998 годзе да іх далучылася Віцебская. Святочнае набажэнства ў гонар гэтай падзеі адслужыў папскі нунцый у Беларусі Дамінік Грушоўскі.

У літургіі ўзялі ўдзел біскуп гродзенскі Антоній Дземянка, біскуп мінскі Кірыл Клімовіч і біскуп віцебскі Уладзімір Блін. На касцёльнай службе прысутнічалі студэнты Люблінскага каталіцкага ўніверсітэта, якія ў верасні бягучага года стануць навучэнцамі новай беларускай каталіцкай семінарыі, якая адкрываецца ў Пінску.

За асабістыя заслугі ў служэнні Богу, за пакуты, прынятыя за веру, святарам Антонію Лосю з Мёрскага раёна і Люцыяну Паўліку з Глыбоцкага раёна, манашцы аршанскага касцёла Св. Язэпа сястры Адрыяне Рудкоўскай і свецкаму каталіку Юзэфу Маслоўскаму з Докшыцаў уручаныя залатыя медалі папы рымскага. Абодва святары за веру прайшлі сталінскія лагеры, сястра Адрыяна была ў ссылцы ў Казахстане. Узнагароджаным таксама ўручылі асабістае пасланне папы рымскага з віншаваннямі. Святкаванне юбілею працягнецца ва ўсіх дыяцэзіях Беларусі.

**Ірына МАРЫСКІНА**

## Расійскі рыначнік прайграў «падпольшчыкам»

У фінансавай яме апынуўся буйнейшы ў Беларусі пастаўшчык у Расію адзення верхняга трыкатажу – пінскі 4-тысячны гігант ААТ «Палессе». Вытворчы канвеер манапаліста страціў ранейшы рытм па пашыве за год да 50 мільёнаў штук вырабаў, бо з-за ўзмацнення ціску падатковага прэса экспарт стаў дарагім і неканкурэнтаздольным.

Затаварванне на складах вымушае адміністрацыю прадпрыемства абвясціць у бліжэйшым часе аб вымушаным адпачынку для ўсяго калектыву. Кампенсаваць выплату заробкаў прапануецца таварам. Гэтым самым жанчынаў-трыкатажніцаў змушаюць не адпачываць, а гандляваць побач з «чаўнакамі».

Паказальна, што калі аднабокая арыентацыя прадпрыемства на расійскі рынак вядзе да эканамічных стратаў, то шматвектарная забяспечвае прыбытак нават з аднатыпнай прадукцыяй. Прыкладам гэтаму – працяглае існаванне ў Пінску цэха па пашыве сучасных трыкатажных вырабаў у трохпакаёвай кватэры 28-гадовай прадпрымальніцы. 10 швачак мелі ў яе працу і атрымлівалі «жывыя» грошы за папулярныя ў Беларусі, Малдове і ва Украіне мадэлі з сыравіны ААТ «Палессе». Прыбытковы прыватны бізнес, аднак, «дражніў» фабрычнае начальства, і ўрэшце на канкурэнта нацкавалі фінінспектараў, якія прыкрылі цэх «падпольшчыкаў».

**Мікола НЯЗЛОМНЫ**





## Там, дзе Лукашэнка, закон не працуе

Ад журналіста Юрыя Свірко генпракурору Віктару Шэйману пададзеная скарга на дзеянні супрацоўнікаў Службы бяспекі прэзідэнта Беларусі. Журналіст лічыць іх за незаконныя.

Справа ў тым, што днямі Ю.Свірко зайшоў у Дом урада дзеля падрыхтоўкі рэпартажу аб выступленні А.Лукашэнкі перад Нацыянальным сходам са штогадовым пасланнем. Але, нягледзячы на тое, што ён меў спецпропуск на ўваход у залу паседжанняў Палаты, супрацоўнікі Службы бяспекі прэзідэнта яго туды не пусцілі. Не дапамог зварот журналіста і да праходзячых міма кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта Міхаіла Мясніковіча і сакратара Савета бяспекі Урала Латыпава.

Пасля гэтага супрацоўнікі Службы бяспекі скруцілі Ю.Свірко рукі і сілком адвялі ў прэсцэнтр Палаты. Пры гэтым было заяўлена, што акрэдытацыю на мерапрыемствы з удзелам А.Лукашэнкі праводзіць прэс-служба кіраўніка дзяржавы.

Юрый Свірко пытаецца: «Чаму там, дзе знаходзіцца Аляксандр Лукашэнка, беларускія законы перастаюць дзейнічаць?». Ён просіць генпракурора ўзбудзіць крымінальную справу («перашкода законнай прафесійнай дзейнасці журналіста, учыненая з прымяненнем гвалту і парушэннем правоў і законных інтарэсаў журналіста»).

**Алесь КАТОВІЧ**

# Мадэрнізацыя – за свой кошт

Зараз буйнейшыя прамысловыя прадпрыемствы Беларусі дзеля павышэння канкурэнтаздольнасці сутыкнуліся з неабходнасцю укаранення ў працэс вытворчасці сістэмаў аўтаматызаванага праграмавання (САПР). Гэтыя высокія камп'ютэрныя тэхналогіі дазваляюць напоўную аўтаматызаваць працу, скарацiць тэрмін вырабніцтва тэхнікі, правесці іе віртуальныя іспыты, выявіць усе дэфекты распрацовак і нават выдаюць напрыканцы сабекошт прадукцыі.

На сённяшні дзень пакуль што толькі Мінскі трактарны завод змог закупіць за ўласныя сродкі і апрабаваць САПР. Цяпер на стварэнне новых мадэляў трактара ад распрацоўкі да зборкі ідзе не больш за 2-3 гады, а раней гэта займала 5-7 гадоў, асартымент прадукцыі павялічыўся, а якасць палепшылася. Іншыя заводы пакуль не маюць дастатковых сродкаў на набыццё неабходных камп'ютэрных праграмаў і падрыхтоўку адмысловага персаналу, але ўсе прызнаюць, што гэтага не пазбегнуць. Дарэчы, абсталяванне аднаго канструктарскага месца спецыяльным камп'ютэрам і праграмным забеспячэннем абыходзіцца ў 100.000 долараў, а такіх, напрыклад, на адным МТЗ – 15. Выдаткі акупляюцца за 1-1,5 года, бо меншае сабекошт прадукцыі.

Як даводзіць генеральны канструктар МТЗ Міхаіл Мялешка, увядзенне САПРа павінна стаць турботай дзяржаўнай тэхнічнай палітыкі. Але пакуль што дзяржава не выдзяляе на гэта ніякіх субсідыяў, а ўласных сродкаў у прадпрыемстваў не стае, таму працэс мадэрнізацыі вытворчасці марудзіцца.

**Алена ЛАБАНАВА**

## Мінску пагражае эпідэмія дыфтэрыі

Летась у сталіцы медыкамі назіраўся рэзкі рост захворвання на дыфтэрыю (вострае інфекцыйнае захворванне верхніх дыхальных шляхоў).

Як паведаміла галоўны эпідэміёлаг камітэта па ахове здароўя Мінгарвыканкама Ала Раждзёнская, у параўнанні з 1999 годам адбыўся рост захворвання амаль у 5 разоў. Прычым з 52 выпадкаў захворвання па краіне 32 прыпалі на Мінск. Агульнарэспубліканскі паказчык захворвання на 100 тысяч насельніцтва — 0,52, а ў Мінску — 1,88. З 4 памерлых ад дыфтэрыі 2 — мянчукі. Толькі за тры сёлетнія месяцы на дыфтэрыю захварэлі ўжо 6 жыхароў сталіцы (усяго ў Беларусі — 11 чалавек).

Па словах А.Раждзёнай, асноўная прычына росту захворвання на дыфтэрыю — несвоечасовая альбо недастатковая імунізацыя. Паводле ейных словаў, «схема імунізацыі была парушаная ў больш чым 80% захварэўшых». Гэта тлумачыцца тым, што «большасць падлягаючых імунізацыі асобаў адмаўляецца ад прышчэпак. Сваю адмову яны матывуюць тым, што ў краіне адсутнічае закон, які б абавязваў грамадзянаў праводзіць прафілактычныя прышчэпкі».

**Алесь КАТОВІЧ**

# Мусім ісці Чарнобыльскім Шляхам

*З 17 па 20 красавіка ў Мінску ў Міжнародным адукацыйным цэнтры (IBB) адбудзецца Кангрэс «Свет пасля Чарнобыля», арганізаваны Фондам «Дзецям Чарнобыля» разам з Міжнароднай Асацыяцыяй гуманітарнага супрацоўніцтва і шэрагам іншых арганізацыяў, што займаюцца чарнобыльскімі пытаннямі. Ад 1992 года ён пройдзе ўжо пятым разам, а сёлетні ягоны дэвіз – «Будучыня дзецям – шанц свету». У мінулыя разы Кангрэс праходзіў у зале гасцініцы «Юбілейная». Але сёлета ягоным арганізатарам у арэндзе памяшкання адмовілі, матывуючы гэта тым, што там ідзе рэканструкцыя (устаноўка не даваць памяшканняў для «сумніўных» акцыяў будзе дзейнічаць да прэзідэнцкіх выбараў).*


Фота IREX/ProMedia

Па складзе ўдзельнікаў Кангрэс «Свет пасля Чарнобыля» мае быць вельмі прадстаўнічым і грунтоўным. Плануецца, што на ім выступяць такія вядомыя адмыслоўцы па чарнобыльскай праблеме, як дырэктар Навукова-даследнага інстытута эпідэміялогіі і імуналогіі Леанід Цітоў, кіраўнік Інстытута радыяцыйнай бяспекі «Белрад» Васіль Несцярэнка, старшыня Чарнобыльскай камісіі Вярхоўнага Савета 13-га склікання Віктар Хоміч, старшыня Усегерманскай асацыяцыі Чарнобыльскіх ініцыятываў Буркхард Хамаер, аўтар 8 кніжак пра аварыю на ЧАЭС і ейныя наступствы, прафесар аднаго з канадскіх універсітэтаў Дэвід Марплз. Апрача таго, пасол АБСЕ Ханс-Георг Вік, эксперты ЮНЕСКА і Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, літаратары Генадзь Бураўкін і Святлана Алексіевіч, рэлігійныя дзеячы, у прыватнасці, мітрапаліт Філарэт і епіскап французскай Партэніі Жак Гаёт, прадстаўнікі дыпламатычных місіяў. Упершыню ў гісторыі Кангрэса «Свет пасля Чарнобыля» ўдзел у ім возьмуць самі «дзеці Чарнобыля» – некалькі пацярпелых падлеткаў. Па ўсім гэтае мерапрыемства стане адным з самых значных у красавіку 2001 года, калі надыходзіць 15-ая гадавіна аварыі на ЧАЭС.

Тым не менш старшыня Фонду «Дзецям Чарнобыля» Генадзь Грушавы кажа, што Кангрэс праводзіцца зараз не таму, што настае круглая жалобная дата, а таму, што маецца затурбаванасць тым, што ўвага да гэтай праблемы як унутры Беларусі, гэтак і ва ўсім свеце мізарнее. Асабліва ўвачавідкі пасля закрыцця напрыканцы мінулага года апошняга блока ЧАЭС. Са словаў Г.Грушавога, праблема Чарнобыля адсоўваецца на перыферыю свядомасці, пры гэтым адбываецца яго міфалагізацыя, а адэкватных рэальных дзеянняў становіцца ўсё менш і менш. А тым часам «радыяцыйная экалагічная катастрофа працягваецца». Хоць бы такі факт: у параўнанні з 1980 годам паказчык нараджальнасці здаровых дзяцей скараціўся ў 4 разы. Зараз гэта ўсяго 18% ад усіх немаўлят. Між тым, яшчэ напрыканцы 80-ых гадоў спецыялісты давялі, што калі будзе меней 20%, пачнецца выміранне беларускага этнасу. Уздзеянне радыяцыі мае прыхавана-глабальны характар, яна ёсць каталізатарам усіх недаброццяў – дрэннага харчавання, экалагічнага заняпаду наваколля, усемажлівых хваробаў.

У гэтых умовах, на перакананне старшыні Фонду «Дзецям Чарнобыля», прыярытэтнымі мусяць быць зусім не інтэграцыйныя працэсы, а выратаванне нацыі. Дзяржава робіць замала. Тая ж Дзяржаўная праграма па ліквідацыі і мінімізацыі наступстваў аварыі на ЧАЭС недафінансуецца на 30%, гэта пры тым, што бюджэтныя чарнобыльскія выдаткі ў параўнанні з 1991 годам скараціліся ў чатыры разы. Да ўсяго праз усялякія бюракратычныя працэдуры за апошнія 3 гады зменшыліся аб'ёмы паставак гуманітарнай дапамогі. Па лініі Фонду «Дзецям Чарнобыля», напрыклад, у 5 разоў. Дарэчы, у Камчарнобыля хацелі б акумуляваць замежную гуманітарную дапамогу ў сябе. Аднак гэта, на думку Г.Грушавога, будзе на шкоду, бо зараз праз розныя грамадскія арганізацыі і фонды ў Беларусь паступае каля 95% усёй гуманітарнай чарнобыльскай рэчавай дапамогі, за мяжой аддаюць перавагу менавіта схеме «людзі – людзям», і ўмяшальніцтва дзяржавы не ўхваляць.

І натуральна, асаблівы галаўны боль тут – нядаўні дэкрэт Лукашэнкі №8, які днямі мае ўступіць у сілу. Паводле Г.Грушавога, ён стаў «самым няўдалым дзяржаўным рашэннем перад 15-ай гадавінай аварыі на ЧАЭС». Элементарны прыклад: дазвол на размеркаванне фінансавай дапамогі даецца звычайна праз месяц, а калі гэтыя грошы патрэбныя для экстраннай аперацыі якому-небудзь маламу? Калі дэкрэт №8 не будзе скасаваны альбо, прынамсі, змякчаны, у сферы гуманітарных паставак у Беларусь Г.Грушавы прагназуе «абвал».

Няма сумневу, што і гэтыя пытанні будуць закранутыя на Кангрэсе «Свет пасля Чарнобыля». Дарэчы, многія ягоныя ўдзельнікі наважаныя ўзяць удзел і ў маючым адбыцца 26 красавіка традыцыйным «Чарнобыльскім Шляху».

**Кірэй МАНУЙЛА**

# ГУЛАГ – синоним земного пекла

## *82 года назад в апреле начали официально действовать советские лагеря уничтожения инакомыслящих*

*Слово «концлагерь» ассоциируется у нас с нацистскими «фабриками уничтожения». Однако этот термин придумала Советская власть в эпоху «военного коммунизма»*

Своим появлением концлагеря принудительных работ обязаны политике «красного террора», предельно отразившей представления верхушки партии большевиков о средствах и методах «построения социализма».

Первые советские концлагеря возникли с началом гражданской войны, летом 1918 года. Туда попадали те, кого не расстреляли в качестве заложника, или те, кого пролетарская власть предлагала обменять на своих сторонников. Сначала советские верхи верили, что лагеря — временная необходимость. Их откровенно называли *концентрационными* или *лагерями принудительных работ*. Лагеря устраивали близ городов, часто в монастырях, очищенных от монахов.

Идея создания концлагерей была реализована в постановлении Президиума ВЦИК от 11 апреля 1919 года «О лагерях принудительных работ». Согласно постановлению, *«во всех губернских городах должны быть открыты лагеря принудительных работ, рассчитанные не менее, чем на 300 человек каждый...»*

Большинство лагерных жителей составляли рабочие, «мелкая» интеллигенция, городские обыватели, крестьянство. В журнале «Власть Советов» (орган ОГПУ РСФСР) за апрель-июнь 1922 года есть статья «Опыт статистической обработки некоторых данных о содержащихся в концентрационных лагерях». Наиболее многочисленными преступлениями, в которых обвинялись заключенные, были: *контрреволюция* (или, как квалифицировались эти преступления до середины 1922 года, — «преступления против Советской власти») —16%, дезертирство — 15%, кража — 14%, спекуляция — 8%.

Наибольший процент осужденных, находившихся в концлагерях, падал на органы ВЧК — 43%, народный суд — 16%, губернские трибуналы — 12%, революционные трибуналы — 12%, на другие органы — 17%.

Приблизительно такая же картина наблюдалась и в сибирских лагерях. Так, например, заключенные Мариинского концлагеря (где содержалось не менее 5% уроженцев Беларуси. — **И.К.**) отбывали наказание за контрреволюцию – 56%, уголовные преступления — 23%, невыполнение разверстки — 4,4%, антисоветскую агитацию — 8%, трудовое дезертирство — 4%.

Первыми политическими концлагерями, которые возникли на основе предложения Ф.Дзержинского, стали *Северные лагеря особого назначения* (СЛОН), которые потом стали называться Соловецкими лагерями особого назначения. В 1922 году правительство передало в распоряжение ГПУ Соловецкие острова вместе с монастырем для размещения там заключенных из концлагерей в Холмогорах и Пертаминске. СЛОН действовал с 1923 по 1939 год. В постановлении СНК СССР от 10 марта 1925 года Соловецкие лагеря были названы ***«Соловецкими концентрационными лагерями ОГПУ»***. Соловецкие лагеря прославились произволом начальства как из числа заключенных, так и работников ОГПУ. Нормальными явлениями были: избиение, иногда до смерти, морение голодом и холодом; индивидуальное и групповое изнасилование заключенных женщин и девушек; выставление на комары летом, а зимою — обливание водой под открытым небом и забивание насмерть пойманных беглецов, выставление трупов на несколько дней у ворот лагеря в назидание и др.

Ряд соловецких «достижений» прочно вошло в репрессивную систему тоталитарного государства: а) определение политзаключенного ниже уголовника-рецидивиста (впоследствии этот советский принцип будет перенят Муссолини, Гитлером и др.); б) обеспечение излишней подневольной рабочей силой путем продления сроков приговора; в) по истечении срока политзаключенных не отпускали на свободу, а направляли в ссылку и др.

Первым объектом будущего ГУЛАГа было управление северных лагерей особого назначения ОГПУ. В северную группу входили 5 лагерей с общей численностью заключенных 33.511 человек, у третьей части из них приговоры даже не вступили в законную силу. Задача перед лагерями стояла следующая: освоить силами заключенных добычу угля в бассейне рек Печоры и Воркуты, нефти в Ухте, строительство железных и грунтовых дорог, разработку лесных массивов.

В 1930 году было сформировано 6 управлений исправительно-трудовых лагерей (ИТЛ) ОГПУ СССР: Северного Кавказа, района Белого моря и Карелии, Вышнего Волочка, Сибири, Дальнего Востока и Казахстана. Лагеря и трудовые колонии начинали играть все более заметную роль в экономике страны. Если в СССР в 1928 году за различные преступления было осуждено около 1,5 миллионов человек, то в 1930 году — более 2,2 миллиона. Удельный вес осужденных к лишению свободы сроком до года сократился с 30,2 до 3,5%, а приговоренных к принудительным работам вырос с 15,3 до 50,8%. Система исправительно-трудовых колоний на 1 мая 1930 года заключала 57 колоний (в 1929 году их было 27), в том числе 12 сельскохозяйственного профиля, 19 лесозаготовительного, 26 промышленного.



Значительный контингент дешевой рабочей силы, занятой принудительным трудом, формировался на основе раскулачивания сельского населения. Инструкция, разработанная в январе 1930 года на основе рекомендаций комиссии Политбюро ЦК ВКП(б) во главе с Молотовым, требовала принять следующие меры против крестьянских хозяйств, отнесенных к кулацким:

— контрреволюционный актив организаторов террористических актов и антисоветских мятежей подвергать аресту и приговаривать вплоть до высшей меры наказания (первая категория);

— крупных кулаков, активно выступающих против коллективизации, выселять из мест их проживания в отдаленные районы страны (вторая категория);

— остальную часть кулаков расселять в пределах района на новых, специально отводимых для них землях (третья категория).

С февраля 1931 года по СССР покатилась новая волна раскулачивания. В результате этой акции только с территории советской Беларуси (половина нынешней территории) было выслано в районы Урала, Сибири и Казахстана *свыше 100 тысяч крестьян*. Для руководства и контроля за ее осуществлением 11 марта 1931 года была образована специальная комиссия, которая стала заниматься не только раскулачиванием, но и *«рациональным размещением и использованием труда спецпереселенцев»*.

В частности, фрагмент протокола заседания комиссии от 30 июля 1931 года отражает ее «повседневную» деятельность:

«СЛУШАЛИ: вопрос о дополнительных заявках на спецпереселенцев и распределении их.

ПОСТАНОВИЛИ: ... обязать ВСНХ в 3-х дневный срок представить ОГПУ свои окончательные заявки на спецпереселенцев; удовлетворить заявку «Востстали» на *14 тысяч кулацких семей*, обязав в 2-х дневный срок заключить с ОГПУ соответствующие договора; заявки Цветметзолота – *4.600 кулацких семей* и Автостроя ВАТО — на *5 тысяч кулацких семей*, заявку по Подмосковному углю — на *4,5 тысяч кулацких семей*; по торфу принять условно заявку на *31 тысячу кулацких семей*»

**Игорь КУЗНЕЦОВ**

*Окончание следует*

